*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 34 (573)** **4 ВЕРАСНЯ 2002 г.**

## Дзень беларускага пісьменства і друку ў Міры

1 верасня ў Міры адбылося свята беларускага пісьменства і друку. Свята ладзіцца ўжо ў дзевяты раз. Фактычна свята беларускага пісьменства і друку за гэтыя гады пастугова вылучылася ў ранг галоўнага нацыянальнага свята Беларусі. Гэта ў прынцыпе і лагічна ў краіне, дзе галоўны нацыянальны герой, імем якога названа галоўны праспект сталіцы, не цар, не кароль, не палкаводзец, а першадрукар.

Пасля пасадкі Саду Малітвы і святочнай літургіі ў Мірскай Свята-Троіцкай царкве, якую адслужыў мітрапапаліт Філарэт, свята перамясцілася пад сцены Мірскага замка.

Высокую ўрадавую дэлегацыю на свяце ўзначальваў прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Генадзь Навіцкі. Прэм'ер як бы падаў прыклад зачытаўшы прывітанне прэзідэнта і выступіўшы на добрай беларускай мове. За ім па-беларуску прамаўлялі і міністры, і старшыня Гарадзенскага аблвыканкаму, і старшыня Карэліцкага райвыканкаму, і, нават, мітрапаліт Філарэт пачаў і скончыў сваю прамову па-беларуску, хоць у сярэдзіне і перайходзіў на рускую мову.




Галоўная сцэна

Мастацкая аздоба свята была надзвычай багатай і разнастайнай. Літаратурную аснову з гісторыі Міра метадычна перамяжаў уток то з рыцарскіх танцаў, то з эстрадна фальклёрных нумароў гуртоў "Гуды", "Крэсіва", "Госціца" ды інш., то з выступу паэтаў. На мірскай сцэне адзначыліся ўсе рэдактары холдынгавых выданняў.



Рыцарскі танец

Побач са сцэнічнай пляцоўкай паказалі сваё майстэрства коннікі спортшколы аграфірмы "Ніва" з вёскі Дварышчы Лідскага раёна.



Выступае гурт "Крэсіва"



Коннік з Дворышчаў на свяце ў Міры

Адбыліся паказальныя баі рыцараў клуба "Унія "Меч і крумкач" з Менска.

Паводле афіцыйных звестак у свяце прынялі ўдзел 20-25 тысяч чалавек, пры колькасці насельніцтва ў самім Міры каля 2,5 тысяч чалавек.

Тутэйшыя жыхары святам задаволеныя, дакладней не так святам, як тым добраўпарадкаваннем пасёлка, якое папярэднічала святу. З пасёлка зрабілі цацку ў поўным сэнсе гэтага слова. Такім дагледжаным Мір не быў, мабыць, і ў часы Радзівілаў.

*Яраслаў Грынкевіч.*

### На свяце беларускага пісьменства і друку арыштоўвалі беларускія газеты

На свяце беларускага пісьменства і друку ў Міры супрацоўнікамі міліцыі былі затрыманы дзве актывісткі ТБМ імя Ф. Скарыны за распаўсюджанне газетаў ТБМ "Наша слова" і "Новы час". Асаблівае незадавальненне міліцыянтаў выклікаў № 31 "Нашага слова" з рэпартажам з Зэльвы. Былі канфіскаваныя некалькі нумароў "Нашага слова" і два пакункі "Новага часу". Сябры ТБМ былі дастаўлены ў пастарунак, дзе на іх былі складзеныя пратаколы. Па просьбе затрыманых іхнія прозвішчы пакуль не падаём.

*Яраслаў Грынкевіч.*

## Уладзіміру Содалю -- 65



13 верасня спаўняецца 65 гадоў з дня народзінаў беларускага пісьменніка, даследчыка гісторыі беларускай літаратуры, сябра рэдкалегіі газеты "Наша слова" Уладзіміра Содаля.

Рэдакцыя газеты, Сакратарыят ТБМ шчыра віншуюць спадара Уладзіміра з днём народзінаў і жадаюць доўгіх плённых гадоў на карысць Беларусі.

*(Матэрыял пра У. Содаля чытайце на ст. 2.)*

## У Саюзе беларускіх пісьменнікаў

20 жніўня старшыня СБП В. Іпатава прыняла ўдзел у паседжанні т.зв. аргкамітэта па падрыхтоўцы з'езда, які ўзначальвае дырэктар Інстытута літаратуры У. Гніламёдаў. Падкрэсліўшы, што не прызнае паўнамоўтваў "аргкамітэта", яна звярнулася да прысутных, як да сваіх калег – пісьменнікаў з прапановай не ствараць крызісную сітуацыю і пайсці на легітымны з'езд, які прызначаны на 24 верасня ў Доме літаратара.

Характэрна, што "новы", холдынгаўскі ЛІМ падаў гэтую інфармацыю вельмі своеасабліва, змясціўшы яе прозвішча ў канцы інфармацыі толькі як "прысутнай" і не абазначыўшы В. Іпатаву, як старшыню творчага саюза, хаця яна прысутнічала там толькі ў гэтай, службовай, якасці, адзначыў, што справаздачны даклад, які так ўпэўнена аб'явілі "аргкамітэтаўцы", будзе магчымым толькі па рашэнні Рады. Дарэчы, за друкаванне анкеты, якая таксама змешчана ў гэтым жа ЛІМе, галасавалі толькі пяць з пятнаццаці прысутных. Але гэта не надта бянтэжыць У. Гніламёдава і яго каманду – яны абазначылі мэту з'езда: змясціць старшыню і накіраваць СБП на тое, каб "дапамагчы Прэзідэнту, кіраўніцтву рэспублікі адстаяць нашу дзяржаўнасць."

У СБП штодзень дзяжураць сябры творчага саюза, беручы на сябе нялёгкія арганізацыйныя клопаты і дапамагаючы кіраўніцтву. Сярод "валанцёраў" У. Конан, Я. Янушкевіч, М.Кенька, М. Яфімава, Н. Галіноўская, У. Мехаў і іншыя пісьменнікі..

Ідзе праца над змяненнямі Статута творчай арганізацыі, якія будуць прапанаваныя на з'ездзе з мэтай прывесці Статут у адпаведнасці з новымі рэаліямі жыцця СБП.

* * *

**В. Дашкевічу.**

У часопісе "Крыніца" – першым за Вашым подпісам – была надрукаваная мая нататка пра Марыю Вайцяшонак.

Я здавала яе рэдактару Л. Галубовічу даўно і забылася на яе з-за ўсіх мітрэнтаў з СБП. З Вамі, незаконным рэдактарам часопіса (паколькі Вы не былі зацверджаныя Радай творчага Саюза, заснавальніка гэтага выдання), супрацоўнічаць я не збіраюся. Таму прапаную ганарар за гэтую нататку (калі тут яшчэ яны выплочваюцца), пералічыць на рахунак Таварыства беларускай мовы. А менавіта - №3015212330014 у МГД АТ "Белінвестбанк" г. Менска, код 764.

**В. Іпатава.**





# Сандаль – Сальто – Содаль... (Гадамі не стомлены)

Вандроўкі па ўспаміны, легенды, якія захаваліся сярод жыхароў Вязынкі, Мігаўкі, Радашковічаў ды прылеглых да іх вёсак пра знакамітыя постаці Янкі Купалы, Браніслава Тарашкевіча, Аляксандра Уласава, звялі на маім лецішчы Уладзіміра Содаля і мяне. Адсюль на равэрках яны пачыналіся. Але аднойчы вандроўка затрымалася...

Неяк раптоўна навокал усё сцямнела. Сціх птушыны гоман у сумежным лясочку ды піскат дзетак рудахвосткі, што знайшлі прытулак пад страхой майго садовага доміка. Дождж паліў, як з вядра. Сама сабой пачалася гутарка пра жыццё-быццё.

-- Шэсцьдесят пяць гадоў майго жыцця, -- гаворыць Уладзімір Содаль, -- прайшло так хутка, так імгненна, быццам з дзяржавай у карты прагуляў...

Нарадзіўся ён у 1937 годзе ў вёсцы Мормаль, што на Жлобіншчыне, гадаваўся з сястрычкай без таты. Згадваецца такі эпізод: 1941 год... чатырохгадовы хлапчук бяжыць за палутаркай і надрыўна, аж кошкі душу дзяруць, крычыць: "Татачка, а татачка! Вазьмі мяне з сабою!", -- валіцца ў дарожны пясок, а машына павезла тату далей – на вайну, адкуль ён ужо не вернецца.

Тата яго Ілля быў майстар на ўсе рукі: каваль, механік. О, колькі ён людзям адрамантаваў, наладзіў тагачаснай бытавой ды гаспадарчай тэхнікі, рознага іншага рыштунку. Дзед Павел калісці меў уласную млынарню з паравой машынай, за што ён, а з ім ягоныя дзеці і трапілі ў няміласць да ўлады. І млын надоўга замоўк. Не маглі запусціць. Гэта і вымусіла вярнуць Іллю з ГУЛагу. Ён быў такі знясілены, што на ганак ногі перастаўляў з дапамогай рук. Адпаілі калгасным малачком... Не забыліся на ўсё тое добрае, што зрабіў Ілля для вяскоўцаў. Гадаваўся Уладзімір на яго аўтарытэце. Бывала, збяруцца суседзі і расказваюць, які быў залаты чалавек ягоны тата..., і гэта рабіла вялікі ўплыў на далейшае фармаванне яго, як асобы.

Вайна знявечыла жыццё і самога Уладзіміра. Дзеці знайшлі нейкую, пакінутую пасля баёў рэч, пачалі разглядаць, падышоў Володзя. Прагучаў выбух..., і на ўсё жыццё свет для Содаля памерк напалову – слепата на адно вока.

- З вайны я такога страху не вынес, што маю зараз ад убачаных кадраў па тэлевізіі з чачэнскіх рэпартажаў. Расійскі салдат нагой выбівае дзверы і кідае без развагі гранату. А там жа мо дзеці ці цывільныя? Немец не заўсёды такое рабіў. Мы жылі дзевяць месяцаў між франтоў: савецкага і нямецкага. Але такога не было. Кожны дзень па дзве – тры праверкі, але гранат у нашы сховы не кідалі. Па тэлевізіі мы толькі бачым: чачэнцы – бандыты. Але ніколі не паказалі іх культуру, літаратуру, мастацтва, жыццёвы ўклад. Быццам дзікі народ...

Жаданне да пісьменніцтва ўзнікла з аднага выпадку ў школе. Анойчы дырэктар сказаў: "Калі не заплаціш за вучобу то ў школу не прыходзь!" Плаціць не было чым. Было крыўдна, і ён піша ліст у Менск, у якім выказвае сваю крыўду, апавядае пра лёс сям'і. Прыйшоў станоўчы адказ. Было прыемна адчуць перамогу і ўбачыць друкаванае сваё імя, прозвішча. З гэтага і пачалося яго ліставанне, карэспандаванне з газетамі. Пасля школы працаваў фінінспектарам, быў сакратаром калгаснай камсамольскай арганізацыі. Аднага разу мясцовае кіраўніцтва папракнула, маўляў, пішаш, крытыкуеш у занядбаласці культуры, узяўся б ды паказаў, як трэба развіваць гэтую культуру. І Уладзімір стаў адначасова і загадчыкам клуба. Шмат каго з моладзі пасцягваў з печы, каб адрамантаваць, упарадкаваць клуб – гэты агмень вясковай культуры. За заробленыя грошы набылі розныя музычныя інструменты. Аднак адміністрацыя не забяспечыла ахову клуба, таму клубную маёмасць неўзабаве скралі, а загадчыку суд прысудзіў за ўсё заплаціць. Такое стрываць, сапраўды, было крыўдна. Яно вымусіла Уладзіміра пакінуць родныя мясціны і з'ехаць аж у Мурманск. Працаваў там на вайсковым сударамонтным заводзе рознарабочым, токарам, электрыкам. Кіраваў электрычнасцю усяго прычала. За часты рамонт італьянскага паравога крана, які зваўся "Сальто", атымаў такую ж, ужо другую мянушку. Раней, пэўна за сугучнасць з прозвішчам менавалі – "Сандаль". Вялікага здабытку ў Мурманску не атрымаў. Але успамінае ўсе з дабрынёй. Ягоныя паплечнікі, фактычна выцягнулі юнака з траншэяў, якія ён, як якісь зэк, там напачатку капаў, далучылі да больш кваліфікаванай працы, а потым скіравалі на вучобу. Абраў Уладзімір Менск. Педінстытут, філалогію. Такі факультэт абраны невыпадкова – цягнула, вабіла да роднага слоўка. Неўзабаве ажаніўся, перайшоў на завочнае навучанне. Працаваў настаўнікам у Астрашыцкім Гарадку ў школе дзіцячага санаторыя, дзе дзеці былі з усёй Беларусі. Ах якія ж дзеткі былі цудоўныя, ні на крок ад яго. Бо вельмі ж неяк неардынарна настаўнік вёў урокі – па – свойску. Яго было цікава слухаць як на ўроках, так і па-за імі. Нават зацятыя гультаі былі зацікаўлены праз яго да ведаў. А калі паклікалі працаваць на тэлебачанне дык дзеці, развітваючыся, гаварылі што тут, у школе, ён значна больш мог прынесці карысці Бацькаўшчыне, чым на той тэлевізіі.

-- Ніколі і ніхто – ні



**Уладзімір Содаль. Пяшком па гісторыі.**

мае настаўнікі, ні блізкія і родныя – не думаў і не гадаў, што я буду калі-небудзь філолагам. Не падаваў вялікіх надзеяў, нават у першым класе пісаў не як ўсе: злева ўправа, а наадварот А вось думку сваю меў; мог добра выкласці на паперы хоць і з граматычнымі памылкамі. Школу скончыў пасрэдна, слаба падрыхтаваным, асабліва па рускай мове. Была цяга да творчасці, любоў да ўсяго беларускага..., -- успамінае Уладзімір.

Не парывае даследчык сувязі з сваёй роднай вёсачкай. Часам наведваецца туды і абавязкова зазірне на аколы: як яно там? Ці ўсё зарысло, ці ўсё абсыпалася, загаілася? Помніцца, у адным з іх хаваліся з матуляй ад бамбёжкі нашымі самалётамі, а туды заскочыў немец з кулямётам, пастрачыў у самалёт, выскачыў і пабег некуды, а іх і пальцам не крануў і гранаты не кінуў, і з кулемёта па іх не даў чаргі. Успамінае Уладзімір з пякельным болем у душы, як яму зусім нядаўна прышлося перажыць пакуты падчас святкавання юбілею сваёй вясковаай школы, здзеклівасць, бяздушнасць мясцовых ахоўнікаў правапарадку, затрыманне і знаходжанне родных і яго самаго ў пастарунку пасля невялічкага святочнага застолля. Раніць яго душу, як і многіх сумленных самаадданых сыноў Бацькаўшчыны, сённяшнія падзеі: знікненне вядомых палітыкаў, выцясненне з працы нацыянальна свядомых супрацоўнікаў, выгнанне з ужытку ў дзяржаўных СМІ асобных слоў, скарачэнне беларускамоўнага навучання, звужэнне роднага моўнага асяроддзя. Жахліва назіраць як, разганяючы мірных дэманстрантаў, служкі рэжыму ганяюцца па падворках, валакуць, б'юць дручкамі грамадзян, моладзь Нечым усё гэта нагадвае яму фашыстоўсія аблавы з часоў вайны.

- То тож былі фашысты! А гэта нібыта свае сваіх. У галаву гэта ўсё не ўкладваецца. Сумна і прыкра, што гэта ўсё робіцца ў такой паэтычнай краіне, як Беларусь, - гаворыць Уладзімір.

Скончыўся дождж. Выглянула сонейка і мы паспяшаліся да вандроўкі, прадоўжыўшы ўспаміны ў дарозе. Нялёгка дастаецца Уладзіміру кожная крупінка ведаў пра таго ж Уласава, пра якога – яго будучая кніжачка. А выдаваць іх зараз стала значна цяжэй. І Уладзімір не чакае нейкай дапамогі ад дзяржавы – выдае іх за свой кошт. Аж восем уласных пенсій летась адарваў ён ад сямейнага бюджэту на кніжачку "Фальварак Карпілаўка" пра беларускага пісьменніка, байкапісца А. Лявіцкага (Ядвігіна Ш.).

- Што грошы, грошы, як вада..., а кніжачка застанецца, - блаславіла такімі словамі яе выданне яго маці Саня.

- Нізка ў ножкі павінен пакланіцца Уладзімір сваёй жонцы Клары. Гэта дзякуючы яе анадумніцтву, усведамленню важнасці яго працы для Радзімы ён, хворы чалавек, гойсае па наваколлі Радашковічаў і іншых мясцінах Беларусі, адкладваючы пакрысе грошы на чарговую кніжачку. Дыябетык, з ім заўжды лекі, вада. Ён ніколі не сказаў мне, што яму цяжка. Два гады накручваем на равэрках мы з ім штодзённа па добрых паўсотні кіламетраў у пошуках сведкаў жыцця Аляксандра Уласава ці звестак пра Янку Купалу, Браніслава Тарашкевіча. Менавіта спазнанне гэтых постацяў робіць Уладзіміра глыбока перакананым у праваце свайго жыццёвага крэда, абранага ім яшчэ ў маленстве. Гэта ён напрыканцы васьмі-дзесятых гадоў першы, параіўшыся з жонкай, з дзецьмі, з сваімі роднымі, падпісаў ліст у ЦК КПСС аб занядбанні нацыянальнага жыцця на Беларусі. І гэта на фоне, калі ягоныя настаўнікі, і нават аўтары самога ліста не адважыліся паставіць свае подпіся пад тым зваротам...

Мне цікава і прыемна з ім. Нагаворышся, выгаварышся ўдосталь. Я яму дапамагаю ў распытванні сведкаў. Але ж, во дзіва, гэтых сведкаў, як нехта падсылае. Мы іх ніколі не шукалі. Заязджаем у вёску Дзікшняны, пытаемся ў жыхароў з першае хаты, ці ведае хто тут пра Мігаўскага пана. Падказваюць аднавяскоўца Яблонскага, тата яго парабкам быў там. Выязджаем на вёску і тутачкі сустрыкаем яго. Такое надаралася ў кожнай вёсцы. Што ні выпадковая сустрэча, дык абавязкова трапная.

Уладзімір, як той клешч ці п'яўка, упіваецца ў сведку. Пакуль усё неабходнае не высмакча – не адпусціць. Аднойчы так захапіўся, што атрымаў моцныя сонечныя апёкі, не б сысці ў цянёк. Помніцца, некалькі разоў заязджалі да незгаворлівай дзевяноста-чатырохгадовай бабусі Веры ў Дзікшняны. Калі не прыедзеш, усё корпаецца ў агародчыку пра свой век казала: "Ад серады – дваццаць тры." Пра якую Уладзімір Ільіч казаў: "Я б слухаў яе ўсё роўна, нават калі б яна гаварыла абы што. Мне цікава чуць яе самабытную мову, яе слоўкі".

Непадалёк ад Мігаўкі над намі пасунуліся хмары. Зноў запахла дажджом. І Уладзімір кажа: "Вось у гэтым месцы калісь ішоў з Аляхновічаў, завітаўшы да Уласава, у сваю Карпілаўку Антон Лявіцкі і яго спаткала вялікая навальніца. Пра гэта ён згадвае ў сваіх нататкх. Цікава, што адчуваў, думаў ён пры гэтым?"

А тут як гахне пярун амаль пад самыя ногі ды давай біць то злева, то зправа. Ад праліўнога дажджу схаваліся пад нейкі куст бэзу. Як высветлілася, тут некалі стаяў прыдарожны крыж. Вось і нам выпала адчуць тое, што некалі адчуў пачынальнік беларускага рамана – прамоклі да рубца.

Пасля спатканняў з людзьмі, якія сёння жывуць, а заўтра ужо можаш не спаткаць – вельмі старыя, іхніх успамінаў, мне дома ўжо лежачы ў ложку шмат думаецца, перажываецца пра пачутае. Доўга не ўдаецца заснуць і здаецца быццам патрывожаныя душы рэпрасаваных, незаслужана забытых даўно сышоўшых у нябыт тоўпяцца тут, побач, як бы хочуць выказаць нейкія таямніцы, знесеныя імі ў магілы. Уладзімір Ільіч Содаль вяртае з *забыцця* рэпрэсаванага ў 1939 годзе Аляксандра Уласава, таго самага, які адчыніў у Радашковічах першую беларускую гімназію, рэдактара газеты "Наша Ніва", з якой пачаўся нашаніўскі перыяд беларускага Адраджэння. Пра яго ніводны спатканы сведак не выказаў нічога кепскага, благога, больш таго, некаторыя ўспамінамі з слязьмі на вачах, а адна вельмі старэнькая бабулька з вёскі Пецюлі, цяжка хворая з болем у галосе толькі і змагла вымавіць: "Ён быў за нас, каб наша Беларусь была незалежная".

Больш 30 гадоў аддаў Уладзімір беларускаму тэлебачанню, на якое ён не мае зараз права нават зайсці. Быў рэдактарам тэлечасопіса ,"Роднае Слова; кіраваў некалі студыяй "Ліцэй". Ім створаны сотні перадач і кінасюжэтаў пра знакамітых людзей, патрыярхаў беларускай культуры, па тапаніміцы роднага краю. Глыбока даследаваў жыццё і творчасць Ф. Багушэвіча. Ён выдаў 8 кніжак і 2 альбомы пра Ф. Багушэвіча, Ядвігіна Ш, В. Дуніна – Марцінкевіча, укладальнік 2-х зборнікаў твораў Ф. Багушэвіча, аўтар навучальных дыяфільмаў пра Дуніна – Марцінкевіча, Багушэвіча, Каліноўскага. Сябар Саюза пісьменнікаў.

Цешыцца, ніяк нарадавацца не можа ён унучыкам Сержыкам. Як ні сустрэнемся, не праміне, каб не ўспомніць што-небудзь пра свайго пестуна – любімчыка. Ды чаму не радавацца. Дзесяцігадовы хлопчык, здаецца, трывала шыбае па дзедавай пісьменніцкай пуцявіне. Друкаваўся ў газетах "Раніца", "Сям'я", "Наша слова", у "Вожыку". Гэтым летам чарговы раз за шчыраванне ў творчым конкурсе атрымаў пуцёўку ў Балгарыю на адпачынах, куды ездзіў з такімі ж шчыроўцамі як сам.

"Спадар Уладзя" – ласкава клічуць яго ў Таварыстве беларускай мовы імя Ф. Скарыны, адным з заснавальнікаў якога ён лічыцца, з'яўляецца актыўным яго сябром. Ён сябар рэдкалегіі газеты ТБМ "Наша слова", часопіса "Роднае слова". Шмат піша да іх і ў іншыя прагрэсіўныя перыядычныя выданні краіны.

Дождж жывіць зямельку, а ўспаміны людзей поўняць нашу спадчыну, пры вытоках якой стаіць сапраўдны волат сучаснага беларускга Адраджэння Уладзімір Содаль.

*Мікола Лавіцкі.*

